Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. Цана асобнага № 50 грошы.

№ 4—5 (9—10) Красавік—Травень 1935 г. Год II.



# БЕЛАРУСКАЯ БОРЦЬ

## Месячнік пчалярства і мядова-лекарскіх зёлак

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі Вільня, Каралеўская вул. 3—8. Рэдакцыя адчынена ў аўторкі і пятніцы ад 10 да 14 гадз.

Падпісная плата: на год 5 зл., на паўгоду—2 зл. 50 гр., на 3 мес.—1 зл. 50 гр. Заграніцу—удвая даражэй. Цана абвестак паводле ўмовы.

*ХРЫСТОС УСКРОС! Усім нашым паважаным падпішчыкам, супрацоунікам, чытачам і прыхільнікам шлем гарачыя пажаданьні, шчасьлівых і вясёлых сьвятау.*

*Рэдакцыя і Адміністрацыя.*

## Веснавое уцяпленьне вульлёў.

Добрая матка, якая чэрыць бяз перарываў, здавальняючая колькасьць—ня менш 10 кгр.—добрага мёду, і адпаведна цёплы вульлей,—гэта аснова і зарука дабрабыту і даходнасьці пчалярскай гаспадаркі.

Шмат ёсьць пчаляроў, якія мала зьвяртаюць увагі на добрае ўцяпленьне вульлёў вясной пасьля вынасу з зімоўкі, яны лічаць гэта малаважным. Але справа стаіць ня так. Усім ведама, што нармальная пчаліная сям'я, вясной, пасьля вынасу з зімоўкі, мае некалькі тысяч чарвы, якая патрабуе шмат цяпла. Калі вульлей ня мае адпаведнага ўцяпленьня, калі праз шчэлкі і столь вульля выходзіць шмат цяпла, то ў рэзультаце затрымліваецца разьвіцьцё пчалінай сям'і, а пчолы трацяць шмат часу на ўтрыманьне неабходнай тэмпэратуры. Калі вульлей добра ўцапліць, то большая колькасьць пчол зможа выйсьці ў поле зьбіраць мёд і пяргу. І так, калі ў вульлі ёсьць шчэлкі, то трэба іх замазаць, выляты звузіць і забраць з вульля ўсе рамкі не занятыя пчоламі. Пустое мейсца ў вульлі чым небудзь за-

сыпаць і зьверху ўцяпліць адпаведным матар'ялам. Найлепш падлажыць пад падушку газэтную паперу ў чатыры столкі і шчыльна прыціснуць яе да бакоў вульля.

З досьледаў Харкаўскай пчалярскай навукова-дасьледчай станцыі ведама, што ў сем'яў, якія мелі добра агледжаныя вульлі, у працягу 3-х тыдняў расплод павялічыўся на 70 проц., а ў тых, якія мелі вульлі халодныя на 40 проц. З гэтага відаць, якое значэньне ў разьвіцьці сілы сям'і мае ўцяпленьне вульлёў. Не адкладайце гэтай работы, у пару абглядзьце і ўцяпліце ўсе вашы пчаліныя сем'і, чым запэўніце ім нармальныя варункі разьвіцьця, а самі будзеце здаволены, што пчолы дадуць вам большы даход.

Аляксандар Васкабойнік,
(хут. Новая Украіна, Кіеўскай Обласьці).

---

М. ЯКІМЕЦ.

## Пчаліная кража, або напад.

У часе добрага пажытку (ўзятку) ўсе пчолы на пчальніку заўсёды вельмі занятыя і дзейныя, а ў гэтай дзейнасьці мы заўважываем пэўную пляновасьць і парадак. З вульля пчолы тады вылятаюць не сьпяшаючыся і выдаюць прыемныя і характэрныя гукі, назад у вульлей яны лятуць проста стралою і ўваходзяць бяз ніякае затрымкі. Выняткам зьяўляюцца маладыя пчолкі, каторыя робяць каля лёткі адзін ці большую колькасьць кругоў, аднак-жа ў вульлей уваходзяць яны таксама, як і старыя, не сьпяшаючыся.

Зусім іншы вобраз маем ў часе пчалінага нападу. Праўда і тут пчолы бываюць вельмі жвавыя і дзейныя, але гэта ўжо ня тая прыемная жывасьць і ня тая спакойная дзейнасьць, з якой яны прыносяць з палёў і лугоў труды свае працы, яны цяпер неяк асабліва дзейныя і шустрыя, а гукі іх цяпер іншыя, з спакойных яны робяцца вельмі злымі, разлятаюцца ўва ўсе бакі пчальніка, круцяцца і лётаюць кругом вульлёў, шукаючы і дакладна аглядаючы кожную дзірачку, а калі яе знойдуць неабароненую пчоламі таўпяцца каля яе і стараюцца пралезьці ў сярэдзіну. Лёт гэтакі па пчальніку пачынаецца ад самае раніцы і канчаецца позна ў вечары, калі ўсе пчолы ўжо даўно перасталі лётаць. На дошцы каля лёткі можна тады бачыць, як пчолы грызуць адны адных. Учапіўшыся адна за адну, яны доўга тузаюцца, шчыплюць за ножкі, пакуль каторая ня зваліцца на зямлю. Баючыся пралезьці ў вульлей праз лётку, пчолы — зладзейкі, поўзаюць па вульлі, шукаючы дзірачкі, або шчэлкі, каб улезьці. Выходзяць з вульля зладзейкі цяжка, брушка бывае поўнае. Перш, чым узьняцца ляцець, яны поўзаюць па прылётнай дошцы, або па вульлі. Усё гэта сьведчыць аб тым, што ў такі вульлей пралезьлі не свае, але чужыя пчолы і што тут мае мейсца пчаліны напад.

Пчаліны напад мае мейсца пераважна раньняй вясной, або позьняй восеньню, наагул заўсёды, калі ў полі няма ўзятку. Крапчэйшыя сем'і нападаюць на слабейшыя і адбіраюць ад іх усе запасы мёду. Калі напад усіліцца, дык ад яго могуць загінуць усе слабейшыя раі. Дзеля таго пчаляр павінен пільнаваць, каб на яго пчальніку не завёўся пчаліны напад і, як толькі яго заўважыць, зараз павінен з ім змагацца, а змагацца з ім спачатку, калі ён яшчэ слабы, даволі лёгка.

Калі заўважыцца напад, трэба зараз у тым вульлі, на які нападаюць, паменшыць гняздо і звузіць лёткі, пакінуўшы дзірачку, каб маглі пралезьці толькі адна—дзьве

пчалы адразу. Калі-ж гэта не паможа, дык трэба зусім зарашоціць (зачыніць рашоткай) лёткі, а вульлей занясьці ў цёмнае ня душнае мейсца, а на яго мейсца паставіць пусты вульлей і ўлажыць у сярэдзіну яго што небудзь сьмярдзючае, чаго ня любяць пчолы.

Памагае ад нападу таксама такі спосаб: трэба ўзяць лапінку, намачыць яе ў карбоўцы, або газе і палажыць перад лёткай.

Спыніць напад з самага пачатку можна гэтак: палажыць у вульлей, на які нападаюць чужыя пчолы, нафталіны, або камфоры, тады пчолы нападаючыя набяруць паху камфоры, ці нафталіны, а вярнуўшыся дамоў будуць забітыя, праз свае сёстры, як чужыя. Можна напад спыніць вельмі хутка, забіраючы ў нападаючай сям'і матку. Пазнаць, які вульлей займаецца нападам можна так: у тым вульлі, на які нападаюць трэба зарашоціць лётку і калі перад лёткай назьбіраецца шмат пчолаў-зладзеяк, трэба абсыпаць мукою, або крэйдаю і тады пільнаваць каля другіх вульлёў, куды палятуць белыя пчолы. Калі ўсе вышэй пералічаныя спосабы не памогуць, тады астаецца пераставіць той вульлей на які нападаюць на мейсца таго, з якога пчолы робяць напад. Рабіць гэта трэба толькі тады, калі ў абрабаваным вульлі ёсьць спраўнап матка, калі не, дык гэтакую сям'ю трэба злучыць з крапчэйшай.

Чымся шукань розных, часамі цяжкіх і няпэўных спосабаў дзеля спыненьня пчалінага нападу, лепш старацца ўсімі сіламі не дапусьціць яго ў сваім пчальніку. Дзеля гэтага трэба трымацца наступных правілаў:

1) Ня трэба свайго пчальніка закладаць блізка чужога і сільнага пчальніка.

2) Ня трымаць на сваім пчальніку слабых, або бяз матак сем'яў.

3) Калі ёсьць слабая сям'я, дык гняздо яе трэба паменшыць на столькі, каб пчолы маглі пакрыць усю вузу, а лётку так звузіць, каб маглі прайсьці адна-дзьве пчалы.

4) Ня можна ходзячы каля пчолаў разьвеіваць сыту мёд ні каля вульлёў, ні наагул на пчальніку, а таксама ня можна кідаць на пчальніку рамак з мёдам ці іншых рэчаў, каб гэтым ня прывучаць сваіх пчолаў да лёгкага здабываньня сабе мёду.

5) Ня трэба насіць па пчальніку мёду, або рамак з мёдам адкрытых, але трэба іх пераносіць у зачыненых скрынках.

6) Ставіць корм пчолам у вульлей толькі ў вечары.

7) Трэба замазваць глінаю ўсе дзірачкі і шчэлкі. праз якія маглі-бы ўлезьці зладзейкі.

8) Ня трэба часта і доўга глядзець пчолаў у той час, калі няма ў полі ўзятку. Асабліва гэта датычыцца сем'яў слабых.

—o—

Л. ВОЙЦІКАВА.

## Медадайныя расьліны.

**Бружмель звычайны**, укр. Деревник звычайный, папол. Wiciokrzew, рас. Жимолость, лац. Lonicera xylosteum. Куст сярэдняй вялічыні, даволі густы, распаўсюджаны ў лісьцястых лясох. Кветкі мае белыя з жаўтаватымі пыльнікамі, ягады чырвоныя, зросшыеся па дзьве. Цьвіце ў траўні і чэрвені, хаця вельмі нядоўга, усяго праз некалькі дзён, але мядуе вельмі добра. Размнажаецца насеньнем і дзяленьнем Надаецца на жываплоты. Вельмі дэкарацыйнай адменай бружмеля звычайнага зьяўляецца—**Бружмель татарскі**, (Lonicera tataricum). Кветкі мае прыгожыя ружовыя; цьвіце надзвычайна багата, ягады чырвоныя, сядзяць па аднэй. Расьце вельмі хутка. Размнажаецца, як бружмель звычайны. Цьвіце адначасна з бэзам.

**Казірог,** укр. Дереза звычайна, рас. Плесна, лац. Lycium barbarum. Гэта густы, калючы куст. Лісьцё мае падобнае да лісьця вярбы; кветкі сьветла-ліліёвыя, лейкаватыя, ягады чырвоныя. Цьвіце зараз пасьля садоў, у працягу 3-х месяцаў. Дае шмат мёду і пяргі. Мёд з казірога цёмна-жоўты, смашны, крысталізуецца грубымі зярнятамі. Расьце казірог усюды: на пяўжытках, на каменістым і пяшчаным грунтах і г. д. Вельмі добра надаецца на жываплоты і дзеля змацоўваньня пяшчаных насыпаў. На Украіне, у Прыдняпровых ваколіцах пакрышанае лісьцё казірога даюць, як пашу курам, гускам і сьвіньням. Размнажаецца, як вярба.

**Крушына.** — Rhamnus frangula. Куст, або ня высокае дрэўца; лісьцё мае эліптычнае, пружкаванае, кветкі дробныя, бела-ружовыя, ягады чорныя, круглыя. Цьвіце вельмі доўга ад траўня да восені, так што на адным кусьце можна знайсьці і кветкі і сьпелыя ягады. Мядуе ў працягу 2—3 месяцаў. Дзеля таго, што кара крушыны ўжываецца як лякарства і мае аграмаднае запатрабаваньне, (заграніцу вывозяць партыямі па 20 тыс. кгр.), яе вельмі нішчаць. Пчаляры павінны ўзяць гэты куст пад сваю апеку і бараніць ад загубы, а нават садзіць яе па пяўжытках і ў пчальніках. Каб зьбірачы кары ня нішчылі кустоў, трэба помніць, каб ня зьдзіраць яе кругом галіны, а толькі вузкімі пасачкамі ўздоўж бакавых галінак і то пай лепш з паўночнага боку.

**Крушынай** у нас таксама завуць укр. Бирочка звычайна, папол. Ligustr zwyczajny, рас. Волчьи ягады, лац. Ligustrum vulgare. Лісьцё мае лянцэтаватае, кветкі белыя, сабраныя ў стаячыя букецікі на вярхох галінак. Ягады чорныя, біліскучыя, трымаюцца на кусьце праз усю зіму. Цьвіце ў чэрвені і ліпні, дае мёд і пяргу. Расьце ў зарасьлях Эўропы, паўночнай Азіі і паўночнай Амэрыкі. Ужываецца на густыя, хутка растучыя жываплоты З гнучкіх яе галін робяць кошыкі.

**Клён татарскі.**—лац. Acer tataricum. Расьце вялікімі кустамі па Падольлі і над Волгаю. Лісьцё мае сэрцаватае, зубчатае. Кветкі жоўта-зялёныя ў кароткіх простых букетах. Насенныя скрыдлікі перад

---

# Кароткі нарыс з гісторыі пчалярства.

Да Славянаў, складаючых адну пчалярскую групу, залічае Амбрустэр Славенцаў, Славакаў, Баўгараў і Украінцаў; гаспадарылі яны ў дуплянках у той час, калі Чэхаў і Сэрбаў залічае да пчаляроў лясных. На наш пагляд да гэтай апошняй групы можна таксама залічыць Беларусаў і Палякоў.

Гэтакія памешканьні пчол, як калоды, дуплянкі і г. д. не маглі здаволіць ніякіх пчаляроў, у іх гаспадарыць трудна, няма магчымасьці разабраць будовы г. зн. плястраў, ня можна пазнаць жыцьця пчол, ні кіраваць імі. Дзеля гэтага пчаляры стараліся збудаваць нешта лепшае для сваей выгады і для карысьці пчол. З першых вульлёў найбольш быў знаны вулей Хрыст , які складаўся з квадратных скрынак пастаўленых адна на адну, або з саламяных вянкоў. Быў ён быццам пераходам да рамовых вульлёў. Толькі пасьля вынаходу рамовых вульлёў пачаўся сапраўдны поступ у пчалярстве Першы рамовы, разьбіральны вульлей выдумаў францускі вучоны прыроднік, Францішак Губэр. Вульлей гэты надзвычайнай вартасьці дзеля мэтаў навуковых ня мог быць застасаваны ў гаспадарцы, але помысл яго быў гэніяльны і паслужыў як узор пры далейшых вынаходах. Далей вульлі з рухомымі рамкамі, прыгодныя да практычнай гадоўлі пчол будуюць: у 1810

дасьпяваньнем робяцца ясна-чырвонымі, што робіць яго вельмі дэкаратыўным. Часта гадуюць клён татарскі ў парках. Цьвіце ў траўні. Размнажаецца лёгка адкладамі. Мядуе добра.

**Ляшчына.**—лац. Corylus avellana. Усім добра знаёмы куст, які расьце дзіка ўва ўсей Эўропе, паўночнай Азіі і Японіі. Дае пчолам шмат пяргі рана вясной у пару, калі пчолы найбольш яе патрабуюць. Дзе ляшчыны няма, або яе мала, варта абсаджываць ею пчальнік', тым-больш, што апрача пажытку для пчол дае смашныя гарэхі. Садзіць варта больш цэнныя гатункі ляшчыны: ляшчыну турэцкую (Corylus colurna), якая дае гарэхі большыя за нашу дзікую, і ляшчыну чырвоналістную (Corylus atropurpurea). Апошняя вельмі дэкаратыўная, і мае гарэхі падаўгаватыя ў тоненькай лупінцы.

**Сьнягулька**, — укр. Білоягідник звичайний, папол. Śnieguliczka, лацін. Symphoricarpus racemosus. Паходзіць сьнягулька з Паўночнай Амэрыкі. У нас гадуюць яе ў садох і па' ках, як куст дэкаратыўны. Надзвычайна добра надаецца на жываплоты, асабліва ў пчальніках.

Гэта нявысокі густы куст з цёмнымі круглаватымі лісточкамі. Цьвіце ад чэрвеня да позьняй восені і праз увесь час вельмі добра мядуе. Ягады сьнягулькі, як сьнег белыя і трымаюцца на кусьце вельмі доўга. Размнажаецца надзвычайна хутка атожыльмі. Варта, каб пчаляры зьвярнулі ўвагу на гэты мала ў нас знаны куст.

**Шыпшына.** — укр. Рожа полева, папол. Róża dzika, рас. Шыповник, лац. Rosa canina. Усім добра знаёмы, вельмі калючы куст з вялікімі ружовымі кветкамі, які расьце ў зарасьлях, пры дарогах, па берагох лясоў і на межах. Цьвіце ў канцы траўня і ў чэрвені і дае пчолам шмат пяргі. Размнажаецца з насеньня, дзяленьнем і атожыльлямі. Шыпшына служыць падкладкай для шчапленьня ўсіх гатункаў ружы (радосты). Ягады ачышчаныя старанна ад насеньня і ўнутраных валаскоў, парэзаныя на дробныя пасачкі і высушаныя ідуць у аптэкі. На насеньне ёсьць таксама добры збыт.

**Верас.**—укр. Вересель звыч., па-

---

годзе украінскі пчаляр Пётр Пракаповіч; у 1845 годзе польскі пчаляр кзёндз Дзержон на Горным Шлёнзку; а ў 1851 годзе амэрыканскі пчаляр Лаўрын Лянгстрот. Вульлі Лянгстрота маюць сваіх прыхільнікаў і сягоньня, можна іх таксама спаткаць і ў нашым краі.

Цяпер ужо поступ не затрымоўваўся. Паўставалі цэлыя масы новых тыпаў вульлёў. Сягоньня кожны край мае свае ўлюбёныя вульлі. Трэба ўспомніць галоўныя з іх: вульлі Дадана, Дадан-Блятта, Рута, Лаянса, Галіцыйскія, Украінскія, Варшаўскія, Лявіцкага і г. д.

Але і цяпер пчаляры ўсяго сьвету працуюць над тым, каб стварыць як найлепшыя ўмовы для жыцьця пчол і дзеля гэтага робяць у вульлях штораз новыя праўкі. Апошнім здабыткам зьяўляюцца вульлі сьветлыя—з шклянымі аконцамі ў сьценках. Досьледы над жыцьцём пчол у гэтакіх вульлях паказываюць, што сьвет вельмі добра дзеіць на расплод і здароўе пчол, а таксама збольшывае іх энэргію і працаздольнасьць

Пчаляры дбаюць ня толькі аб тое, каб палепшыць вульлі, а робяць таксама досьледы над рознымі расамі пчол. Часта выпісываюць пчол з іншых краёў, або выпісанымі чужаземнымі маткамі стараюцца палепшыць расу краёвую.

Першыя ўспаміны гісторыі аб пчале адносяцца да жоўтай пчалы ўсходняга паходжаньня. Жоўтая пчала была прывезеная Эгіпцянамі ў Грэцыю 33 стагодзьдзі таму на-

пол. Wrzos, рас. Вереск. лац. Calluna vel Erica vulgaris. Добра знаны маленькі ўсезялёны кусьцік, з шматлікімі дробнымі ружова-ліліёвымі кветкамі. Цьвіце ад жніўня да зімы. Гэта найлепшы васеньні медадай. Мёд дае цёмны з зелянаватым адценкам, вельмі густы. Расьце на няўраджайных пясках і на мокрых мяйсцох, часта займае аграмадныя абшары, куды нават аплачываецца вывозіць пчол на васеньні пажытак.

На балотах творыць з часам пакляды торфу. Можа служыць нападсьціл для жывёлы і на апал. Перагніўшы дае цэнную ў агародніцтве верасовую зямлю.

**Ізоп.** — укр. Ізоп, папол. Hyzop, рас. Иссоп, лац. Hyssopus officinalis. Гэта невялічкі кусьцік да 50 цм. Лісточкі мае дробныя, цёмна-зялёныя з прыемным пахам. Кветкі сінія, часам белыя, або ружовыя густа пакрываюць канцы галінак. Цьвіце ад ліпня ў працягу 2–2½ месяцаў. Мядуе вельмі добра.

Размнажаецца насеньнем, дзяленьнем кустоў і флянсамі. Любіць грунт выраблены і багаты вапнай. Ізоп належыць да расьлін лекарскіх. Зрэзываюць яго маладыя галінкі з лісьцём і кветкамі, дробна крышаць і сушаць.

—o—

## З чужога жыцьця і прэсы.

Амэрыканскія пчаляры, як бачым з часопісі „American Bee Journal“ (Амэрыканская пчалярская часапісь), падрабязна разглядаюць справу розных медадаяў. У № 1 г. ч. аўтар артыкулу аб „Белай дзяцеліне“, лічыць яе найлепшым медадаем, кажучы, што яна дае больш мёду, чым усе іншыя расьліны разам. Хочучы мець чысты дзяцелінавы мёд, трэба пільнаваць, каб поле засеянае дзяцелінай было вольнае ад розных іншых расьлін. Мёд з кветак мяшаных бывае найчасьцей даволі цёмны і мае моцны пах у той час, як чысты дзяцелінавы мёд мае пах далікатны і коляр надзвычайна сьветлы, амаль як

---

зад. Дакладна ня ведама адкуль яна была ўзята, але праўдападобна была гэта пчала Фэнікійская, або Цыпрыйская. Гэтая жоўтая пчала, скрыжаваўшыся з чорнай Эўрапэйскай пчалой, дала шмат розных разнавіднасьцяў. З гэтага скрыжаваньня, паміж іншымі, паўсталі пчолы Каўказкія. А пчолы перавезеныя з Грэцыі ў Італію далі пачатак пчале Італьянскай, так распаўсюджанай у нашыя часы. Шмат пчаляроў у нашым краі і ў іншых стараюцца завясьці ў сябе Італьянскія пчолы, якія маюць быць больш працавітыя і лагодныя, чым нашы. Аднак шмат ёсьць і такіх, каторыя даходзяць да перакананьня, што найбольш карысной зьяўляецца рацыянальна гадаваная краёвая раса.

Былі аднак на зямлі і гэтакія мейсцы, дзе прыродных, мяйсцовых пчол ня было зусім, туды іх людзі прывозілі, падбіраючы найбольш адпаведныя да мяйсцовага клімату расы. І, як відаць з разросту пчалярства, у такіх мяйсцовасьцях пчолы акліматызаваліся вельмі добра.

— Калі была адкрыта Аўстралія, то ня было там знайдзена ні сьледу пчол, — сягоньня Аўстралія мае паважныя пчалярскія гаспадаркі. Гэтак сама Новая Зэляндыя, якая мае цяпер мёд ня толькі на свае патрэбы, але і на экспарт, які напр. у 27 годзе дайшоў да 1.184.960 фунтаў, на суму 168.588 даляраў.

У халодных тайгах Сібіры, у Іркуцкай губ. прыроднага, так сказаць, пчалярства ніколі ня было. Першымі, хто завёз пчол у гэты

вада. Дзеля гэтага можна яго дамешываць да цёмнага мёду, хочучы апошняму надаць сьвятлейшы коляр. Дзяцелінавы мёд — густы і таму падмешываюць яго да радкога мёду, які мог-бы фэрмэнтаваць. Мёд з белай дзяцеліны хутка крысталізуецца, але вельмі прыгожа: гладка, цьвёрда, як цеста. Ён найлепш надаецца на такія мадовыя вырабы, як: мядовае масла, мядовая сьмятана і інш. У Амэрыцы 50 проц. усяго прадукаванага мёду, гэта белы мёд дзяцелінавы. Мае ён вялікую экспартную вартасьць і вывозіцца ўва ўсе часьці сьвету. Хоць ён хутка крысталізуецца, але калі яго падагрэць і зьмяшаць з іншым мёдам, слабой крысталізацыі, то і ён захоўвае цякучасьць, чым яшчэ больш павялічываецца яго гандлёвая вартасьць.

Варта і нашым пчалярам зьвярнуць увагу на белую дзяцеліну і сеяць яе як найбольш дзеля ўласнай і пчолак карысьці.

---

## Украінскія завочныя пчалярскія курсы.

Эканамічная незалежнасьць і самавыстарчальнасьць кожнага народу — вось актуальная праблема сёняшняга дня, дня мытаў ды шалёнай канкурэнцыі. І той народ пераможа ў гэтай барацьбе, гаспадарка якога будзе пастаўлена рацыянальна. Каб умела выкарыстаць сваю гаспадарку патрэбна фаховая веда, чаго ня можа здабыць народ у сваей цэласьці ў школах. Гэта зразумела Украінская Гаспадарская Акадэмія ў Падэбрадах, творачы Тэхнічна-Гаспадарскі Інстытут (У.Т.Г.І.) завочнага навучаньня, які ў сваю чаргу сарганізаваў цыкль курсаў з гаспадарскай галіны і між імі курсы пчалярства.

Курсы пчалярства абыймаюць 265 старонак машыновага друку, складаюцца з 16 наступных лекцыяў. 1—2 інж. М. Сочинский—Пчалярства на Украіне і яго значэньне; 3. Рэд. Камісія—Уступ да біолёгічных асноваў гадоўлі пчол (Апікультура). Д-р Драбатий. Спад-

---

суровы край, былі ссыльныя палякі ў 1863 годзе. Ужо ў 1868 годзе на гаспадарчай выстаўцы зварочвалі на сябе ўвагу пчалярскія экспанаты Язэпа Вайсятыча; а ў 1913 годзе ў Іркуцкай губ. налічывалася 50 пчальнікоў, у канцы 1914 году было іх ўжо 115.

Гэтак сама ня было пчол у Сярэдняй Азіі, доказам чаго можа служыць факт, што ў мясцовых мовах няма нават слова „пчала", а называюць яе „урус-арш", што значыць „руская асва". Каля гораду Самарканду пчолы зьявіліся толькі ў 1893 годзе. Ня гледзючы на сваю моладасьць пчалярства Сярэдняй Азіі ўжо перад вялікай вайной дайшло да высокага пункту разьвіцьця і сягоньня, дзякуючы бязупыннай дасьледчай працы вучоных над варункамі кліматычнымі і медадайнай флёрай краю, разьвіваецца штораз лепш. Ня толькі ў краёх культурных усяго сьвету, улічываючы сюды Кітай і Японію, пчалярства, якое вядзецца рацыянальна, разьвіваецца, пашыраецца і дае вялікія відавочныя карысьці, але і там, дзе культура стаіць вельмі нізка, пчалярства вядзецца самымі прымітыўнымі спосабамі, ды затое спрыяе клімат, пчолы багата адплачываюць за тую мінімальную працу, якую маюць пчаляры каля іх. Прыкладам можа служыць пчалярства ў Пэрсыі, дзе пчолы гадаваныя ў нечым падобным да дуплянак даюць па 32 кг. мёду з вулья. (Апрача таго, што маюць ў гнязьдзе для сябе на зіму).

Гэтак сама на востраве Тасманіі

ковасьць у пчол; 4. Д-р Л. Гуменюк—Разьвіцьцё пчалы. Будова ды жыцьцёвыя працэсы пчалы. 5. Д-р І. Драбатий — Змыслы пчол, Паходжаньне і расы пчол; 6. інж. М. Сочинский, Медадайныя расьліны, Медадайны севазварот; 7. інж. М. Боровський — Вульлі, Пчалярскія прылады; 8—11. інж. М. Сочинский, Тэхніка пчалярства. 12 Д-р Л. Гуменюк — Хваробы і шкоднікі пчолаў: 13. Д-р І. Драбатий—Палепшаньне расы пчол на племя; 14. інж. М. Боровський—Тэхналёгія і арганізацыя пчалярства і 16. Доц. Віктар Даманицкий, Дзяржаўныя ды грамадзкія захады й законы дзеля пашырэньня і палепшаньня пчалярства.

Як бачым, зьмест курсаў багаты, абыймае ўсе галіны пчалярскай гаспадаркі. Курсы апрацаваны фахова і вельмі старанна,—відаць, што супрацоўнікі і рэдакцыйная камісія працы не шкадавалі, а як кажуць улажылі душу ў гэтую справу.

Кожны пчаляр беларус, які хоча пашырыць сваю веду, павінен запісацца на курсы, ці прынамся выпісаць падручнік, (16 лекцыяў складаюць падручнік).

# КАМУНІКАТ.

Прыймаецца падпіска на 3-тыднёвыя завочныя курсы па арганізацыі збору мядова-лякарскіх і лекарскім зёлак.

Навука на курсах бясплатная, толькі, як зварот коштаў паперы, друку і паштовых расходаў, сябры Т-ва „Пчала“ і падпішчыкі „Бел. Борці“ ўносяць па 2 зл., а ўсе іншыя па 3 зл.



*Садзі медадайны жываплот — будзеш есьці мёд.*

пчалярства пры мінімальнай працы малакультурнага жыхарства дае аграмадныя карысьці. Але няма хіба такога мейсца, дзе пры вялікім замілаваньні пчаляра да сваей працы ня можна было-бы трымаць і гадаваць пчол.

Не аднаму трудна паверыць, што ў гэтакім горадзе, як Парыж, у самым яго цэнтры, у Люксымбурскім садзе знаходзіцца пчальнік Парыскага Т-ва пчаляроў, дзе адбываюцца бясплатныя пчалярскія курсы. У паўднёвай часьці Парыжа ў парку ў Монсуры таксама знаходзіцца пчалярская практычная школа. Апрача гэтых школьных пчальнікоў у Парыжы можна знайсьці пчол на бальконах, на панадворках і на падстрэшшах. Парыжскія паркі багатыя ліпай, акацыяй і каштанамі пазваляюць пчолам сабраць апрача запасаў на зіму да 10 кг. мёду на вульлей.

Прысутнасьць пчол нават у цэнтрах гэтакіх гарадоў, як Парыж, бязумоўна сьведчыць аб вялікім зацікаўленьні людзей, як жыцьцём пчол, так і пчалярствам, як карыснай галінай гаспадаркі. Апрача пчаляроў - практыкаў досьледамі нат пчоламі і іх жыцьцём, займаюцца цэлыя масы розных вучоных амаль ня ўва ўсіх старонках сьвету. Міжнародны абмен навуковымі і практычнымі досьледамі ў галіне пчалярства мае аграмаднае значэньне. Дзеля гэтага склікаюцца пэрыядычныя пчалярскія кангрэсы, меншыя зьезды, нарады, а таксама выдаецца шмат пчалярскіх часапісаў, больш як 300 на цэлым сьве-

М. ЯКІМЕЦ.

# Хваробы і ворагі пчолаў.

(Працяг).

Змаганьне з гнільцом амэрыканскім (лярвовым).

Гнілец амэрыканскі ёсьць хваробаю для кожнага чарвячка, як адзінкі, невылячальнай, бо кожны чарвячок, які заразіўся, мусіць згінуць І таму змаганьне з амэрыканскім гнільцом палягае пераважна на стасаваньні такіх мераў і сродкаў, якія не дазваляюць яму пашырацца.

Першым варункам, які пазволіць змагацца з амэрыканскім гнільцом, ёсьць усьведамленьне шырокіх мас пчаляроў аб хваробе, як такой з варункамі яе пашырэньня і аб спосабах з ею змаганьня і лячэньня. У шмат якіх дзяржавах як: Швайцарыі, Францыі, Італіі, Нямеччыне, Аўстрыі і ў Злучаных Штатах змаганьне з гнільцом ёсьць сарганізаванае. Там кожны пчаляр, калі толькі заўважыць гнілец у сваім пчальніку, ён мае абавязак аб гэтым паведаміць адносныя ўлады. Тады спэцыяльныя інструктары праводзяць лячэньне і дэзынфэкцыю. Існуюць там таксама Т-вы ўзаемнага страхаваньня пчаляроў, якія выплачваюць адшкадаваньне за зьнішчаныя ў часе лячэньня раі.

Калі ўжо відаць, што у пчолаў напэўна амэрыканскі гнілец і гэта заўважана толькі ў адным вульлі, то лепей за ўсё гэтакі вулей у ночы, калі ўсе пчолы дома, разам з усім спаліць. Зрабіць гэта трэба, дзеля таго, каб зьнішчыць у зародку заразу, якая можа вельмі лёгка пашырыцца так на сваім, як і на суседнія пчальнікі. Паступіць гэтак можа толькі пчаляр, каторы мае большую колькасьць вульлёў і калі хвароба апанавала адну дзьве слабыя сям'і. Калі-ж пчальнік не багаты і зараза апанавала сем'і сільнейшыя, дык трэба ўзяцца за лячэньне. Трэба тут зацеміць, што лячыць можа толькі пчаляр добры фаховец, бо калі-ж за гэта возьмецца пчаляр мала дасьведчаны, ён можа нарабіць шкоды так сабе, як і суседзям.

Лячэньне палягае на тым: усе пчолы з вульля зьмятаюцца ў райніцу. Рабіць гэта трэба пад вечар, калі ўсе пчолы дома. Вульлей, у якім былі хворыя пчолы, а таксама ўсё што ў ім было, як падушкі, маты, рамкі і г. д. зараз-жа пасьля перагону, трэба занясьці у такое мейсца, куды ня маюць доступу пчолы. Райніцу з пчоламі заносім у мейсца цёмнае і трымаем там іх дзён 2 — 3, пакуль пчолы не пачнуць асыпацца з голаду. Трымаецца пчолаў так доўга дзеля таго, каб яны ператравілі ўвесь той мёд, які ўзялі ў запас з хворага вульля. Калі толькі зауважана абсыпаньне пчолаў, трэба іх падкарміць цукровым сыропам і саджаць ў новы вульлей, у які даём рамкі з штучнаю вузою, або толькі з палоткамі яе. Пасадзіўшы, трэба іх падкормліваць мёдам, або цукрам.

---

це. Найбольш іх мае Нямеччына. Каб зрабіць усе часапісі даступным дзеля карыстаньня для найбольшага ліку пчаляроў, пчаляры-эспэрантысты стараюцца ўводзіць гэту мову ў часапісі, прынамся даючы ў ёй подпісы пад рысункамі, загалоўкі важных стацей і г. д. Гэтак робіць японскі пчаляр-эспэрантыст, рэдактар пчалярскай часапісі „Японскае пчалярства“.

І зусім слушна, сувязь пчаляроў розных нацыянальнасьцяў неабходная для дабра пчалярства.

каб перагнаная сем'я магла хутка пабудаваць сабе гняздо, яна павінна быць сільная. І таму радзяць некаторыя пчаляры лучыць слабыя хворыя сем'і па некалькі разам. Матку радзяць зьмяніць, бо старая можа даць хваробу новаму пакаленьню. Перагон найлепш рабіць вясною і ў пачатку лета. Можна рабіць і трохі пазьней, толькі ня позьняю восеньню, бо тады пчолы не пасьпеюць пабудаваць сабе гнязда. А даваць гатовую вузу ня можна, бо яны ў чарачкі яе вылююць узяты ў запас мёд і такім чынам перанясуць споры гнільца. І таму лячэньне гнільца заўважанага ў восені ў сільнай сям'і, трэба адлажыць на вясну.

Старое гняздо, на каторым сядзелі хворыя пчолы, трэба спаліць, або закапаць у зямлю. Вузу—пэратапіць на воск, з якога добра пераварыўшы можна сьмела рабіць штучную вузу, бо ён, як паказалі бактэрыялёгічныя досьледы ня мае ў себе здольных да жыцьця спораў. Мёд, добра пераварыўшы, можна спажываць, адпак-жа пчолам даваць яго ня можна. Калі вулей быў стары і мала варты, дык найлепш яго спаліць. Калі новы, то трэба яго з сярэдзіны выскрабсьці аж да белага дрэва, пасьля апаліць агнём. Найлепш гэта рабіць лямпачкаю, якую ўжываюць да паяньня, бо яна дае шырокае полымя. Апальваючы стараемся, каб агонь трапіў у кожную дзірачку і кожны куточак як з сярэдзіны так і з вонку. Пасьля гэтакай дэзынфэкцыі вульлей з вонку трэба памаляваць алейнаю фарбаю. Лётку таксама выскрабаць і апаліць. Усе пчалярскія прылады трэба гатаваць у вадзе праз 1/2 гадзіны, ня ўсе рэчы можна вывварыць у вадзе, або апаліць агнём і таму два амэрыканскія вучоныя Варбэр і Гутцэльмам радзяць рамкі з заражанаю чарвою па распячатаньні мачыць праз 48 гадзін у рашчыпе, 4 часткі сьпірту, або вады з 1 часткаю 40 проц. фармаліны. Мачыць трэба так, каб рамкі былі затопленыя зусім у рашчыне. Пасьля 48 гадзін рамкі выймаем і вытрасаем на цэнтрафузе. Гэтак выпаражненыя рамкі, трэба добра вымыць у вадзе і ізноў вытрасьці на цэнтрафузе і высушыць на сонцы. Гэтак прадэзынфэкаваныя рамкі можна сьмела ўжываць, яны ня маюць заразы.

Зямлю, дзе стаяў хворы вулей, трэба пасыпаць вапнай і перакапаць. Усю гэтую працу трэба выканаць хутка, каб ня даць магчымасьці садзіцца пчолам на вульлей, дзе сядзелі хворыя пчолы і на іх вузу, мёд і чарву.

Хаця амэрыканскі гнілец можна з пчальніка выжыць, а нават выратаваць пчолы хворай сям'і, аднак-жа заўсёды пчаляр пэносіць пры гэтым вялік'я кошты і страты. Дзеля гэтага кожны пчаляр павінен усімі сіламі імкнуцца да таго, каб на яго пчальніку не завёўся амэрыканскі гілец. Першым варункам да гэтага, ёсьць дакладная знаёмасьць кожнае сям'і, каб заўважыць хваробу ў яе пачатку і ня даць ёй пашырацца. Асабліваю ўвагу трэба зьвярнуць на сем'і слабыя. Калі ёсьць толькі нават падазрэньне амэрыканскага гнільца, то для пэўнасьці пасьля агляду гэтакіх сем'яў лепш рабіць дэзынфэкцыю ўсіх прыладаў, а нават адзежы.

Трэба вельмі асьцярагацца купляючы пчолы на чужых пчальніках, каб разам з купленымі пчоламі ня прывязьці ў свой пчальнік заразы.

Трэба пры ўжываньні чужых і няпэўных вульлёў ці іншых пчалярскіх прыладаў дакладна іх здэзынфэкаваць. Ня трэба падкормліваць сваіх пчолаў чужым мёдам перад гэтым не пераварыўшы. Ня можна купляць матак там, дзе ня маем пэўнасьці, што няма амэрыканскага гнільца.

Трэба вельмі ўважаць, каб хворыя сем'і на амэрыканскі гнілец ня грабілі (нападалі) чужыя пчолы, бо гэта можа пашырыць яго па ўсім пчальніку і па суседніх.

(Далей будзе).

# Аддзел лекарскіх зёлак.

## Арганізацыя збору і збыт зёлак у наступаючым сэзоне.

Бягучы год абяцае быць у зёлкавай справе досьць памысным.

У працягу апошніх некалькі гадоў зёлкі нашы ішлі амаль выключна на заспакаеньне патрэб краёвага рынку, бо фірмы заграні́чныя адносіліся да іх вельмі крытычна і не ахвотна куплялі наш тавар, лічучы яго не адпаведна сабраным і прыгатаваным.

Мелі яны ў гэтым і рацыю, бо да справы збору зёлак нашыя зьбірачы, а нават і плянтатары адносіліся нядбала, зьбіраючы зёлкі абы-як, у выніку чаго атрымоўваўся тавар, які ня мог задавольніць вымаганьняў рынку.

Ад паловы 1934 году, дзякуючы паправе нашага тавару, загранічаыя фірмы зноў пачалі цікавіцца шмат якімі з нашых лекарскіх і прамысловых расьлін.

Як відаць са статыстычных дадзеных аб экспорце (вывазе заграніцу), з аднэй толькі віленшчыны ў апошнія месяцы вывозілася заграніцу што месяц каля 3000 кгр. розных зёлак, якія йшлі пераважна ў Нямеччыну, Чэхаславаччыну і Бэльгію.

Гэтае аднавіўшаеся зацікаўленьне нашымі зёлкамі павінна быць узята пад увагу ў новым сэзоне.

Распачынаючы гэты сэзон мы павінны арганізаваць і збор, і прыгатаваньне зёлак так, каб выходзячы ад нас гатовы тавар адказываў усім вымаганьням аптэчнага рынку і знаходзіў сабе купца ня толькі ў краі, але і заграніцай. Тады толькі можна быць пэўнымі, што зёлкі нашы ня будуць зноў выціснуты з рынку, а збор і гадоўля зёлак будзе аплачывацца.

У першую чаргу дзеля гэтага павінна быць уведзена ў гэтай справе адпаведная пляновасьць. Не належыць зьбіраць ці гадаваць усё, што толькі трапіць пад руку. Прыступаючы да збору ці гадоўлі трэба азнаёміцца з запатрабаваньнямі краёвага і загранічнага рынку, і зьбіраць толькі тое, што гэтыя рынкі патрабуюць. Кожны зьбірач, а тым болей той, хто хоча заняцца зёлкамі на шырэйшую нагу павінен яшчэ загадзя навязаць сувязь з якой небудзь фірмай або арганізацыяй, якія вядуць гуртовы гандаль зёлкамі і зьбіраць тады ўжо толькі на іх запатрабаваньне. Тады можна лічыць збыт зёлак забясьпечаным.

Аднэй з арганізацыяў, якія маюць сваім заданьнем наладзіць збыт нашых зёлак з найвялікшай карысьцю для зьбірачоў і плянтатараў зьяўляецца Беларускае Коопэратыўнае Т-ва „Пчала“ (Wilno, ul. Królewska 3—8).

Т-ва прапануе ўсім зацікаўленым зёлкавай справай арганізаваць у сябе зборныя пункты, каб сканцэнтраваць у адным мейсцы ўсё сабранае ў дадзенай баколіцы, што будзе дужа карысным пры перасылцы.

Арганізатары гэтакіх зборных пунктаў павінны добра азнаёміцца з парадкам збору, сушэньня, пакаваньня і перахоўваньня зёлак, каб быць у сваей ваколіцы аднача́сна і інструктарамі для іншых зьбірачоў, якія меньш да гэтае справы прыгатаваныя.

Вельмі карыснай для справы была-бы арганізацыя супольнага сушэньня тавару, які дастаўляўся-бы на зборныя пункты ў сырым стане, а там перад сушэньнем адпаведна сартаваўся.

Пры гэтакім супольным сушэньні можна было-б атрымаць больш адналіты тавар, што дадатна ўплывае на цану яго. Арганізаваўшы зборны пункт трэба паведаміць Т-ва аб тым,

якія зёлкі маюцца ў ваколіцы, каб Т-ва магло даць парады, што варта і належыць зьбіраць і пры першай магчымасьці выслаць у Т-ва крыху ўжо гатовага тавару, каб можна было б як найхутчэй знайсьці купца.

Гэтакая арганізацыя была-б найбольш адпаведная для нашага сялянства і дужа магла-бы прычыніцца да вызваленьня яго з пад залежнасьці ад розных скупшчыкаў, якія разьяжджаючы па вёсках і за бязцэн скупляюць сабраныя зёлкі.

Пераняцьце справы зёлкавай у адпаведныя арганізацыі дадатна адаб,ецца і на якасьць тавару і гэтым самым затрымаець за нашымі зёлкамі тое даверра да іх, якое было стрымана, дзякуючы нядбальству гэтых самых скупшчыкаў. **М. М.**

---

## Збор зёлак і абарона прыроды.

Вельмі часта здараецца, што зьбірачы зёлак у пагоні за нажываю вырываюць тыя ці іншыя расьліны падрад не пакідаючы нават ніводнага экзэмпляру на расплод і нялічучыся зусім з тым, якія могуць быць ад гэтага насьледкі.

Дзеля гэтага затрымаемся крыху над пытаньнем аб абароне прыроды, што будзе зараз зусім на часе ў сувязі з пачаткам новага зёлкавага сэзону.

Справа абароны прыроды ад нішчэньня яе чалавекам — справа ня новая. Спатыкаемся з ёй ужо ў першабытнага чалавека, які хоць і вызысківаў бяз літасьці прыроду дзеля заспакаеньня сваіх жыцьцёвых патрэбаў, але для некаторых аб'ектаў яе рабіў выняткі, лічучы іх сьвятымі (сьвятыя гаі, дрэвы, каменьне і г. д.).

У працягу часу, з вычарпаньнем тых ці іншых багацьцяў прыроды, чалавек сам ужо сьвядома пачынае абмяжоўваць сябе ў карыстаньні некаторымі з іх, каб захаваць іх для наступных пакаленьняў. Гэтакім чынам паўстаюць розныя законы аб абароне прыроды, як напр. закон аб абароне лясоў, аб паляваньні і інш.

У XIX стагодзьдзі, у сувязі з разьвіцьцём навук, аб прыродзе, справа яе абароны знаходзіць і навуковыя абаснаваньні.

Навука прызнала, што вынішчэньне тых ці іншых відаў жывое ці мёртвае прыроды нарушае раўнавагу ў прыродзе, што ад'емна адбіваецца на цэласьці яе. Гэтак напр. вынішчэньне лясоў лічыцца прычынаю зьмены клімату на горшае, вынішчэньне птушак зьяўляецца прычынаю гібелі лясоў і расьліннасьці, якія нішчуцца праз гусьвіцаў і чарвякоў, што раней зьядаліся гэтымі птушкамі і г. д.

Па другое, прырода зьяўляецца тым тэрэнам, на якім адбываецца яе вывучэньне і дзеля гэтага захаваньне некаторых абшараў яе ў дзявочым стане зьяўляецца абавязкам нашым у імя навукі.

Далей прырода мае вялізарнае значэньне і з пункту гледжаньня грамадзкае гігіены, і зьяўляецца тэй крыніцай, з якой чалавек чарпае ў пастаці зёлак, гэтак патрэбныя яму прыродныя лекі. Ня будзем падрабязна затрымлівацца над апошнім пытаньнем, бо чым зьяўляецца прырода для здароўя чалавека ня прыходзіцца хіба і гаварыць.

Усё ўспомненае вымагае ад кожнага, хто толькі мае сутычнасьць з прыродай асьцярожнага да яе адношаньня.

Вымаганьне гэтае асабліва павінна стасавацца да зьбірачоў з дзікага стану прыродных лекаў—зёлак.

Кожны з збірачоў, хто толькі хоць крыху падумае над гэтым пытаньнем, павінен добра зразумець, што вымагаець гэтага, ня толькі пералічанае, але і яго ўласныя інтарэсы, бо разьвіцьцё і арганізацыя зелярства магчымы будуць толькі тады, калі будзе асьцярожнае і беражлівае адношаньне да прыроды, якая гэтыя зёлкі дае

Ня будзем берагчы — дык хутка і лёгка давядзём да таго, што зьнікне

зусім тая ці іншая расьліна, а ў выніку наробім шкоды ня толькі чалавецтву, якое пазбавім патрэбных яму лекаў, але зробім шкоду і сабе, бо пазбавімся крыніцы даходу.

Зьбіраючы зёлкі трэба заўсёды аб гэтым помніць і ня вырываць расьлін усіх да аднэй, але *абавязкава пакідаць у кожным мейсцы па некалькі экзэмпляраў і то экзэмпляраў моцных і здаровых на расплод.* Тады можна быць пэўным, што дадзеная расьліна ў гэтым мейсцы ня зьнікне. Асабліва павінна стасаваць гэта пры зьбіраньні расьлін, якія робяцца ў нас рэдкімі, ужо добра вынішчаны праз чалавека. Да гэтых адносяцца *загартушка* (Drosera rotundifolia) і *сардэчнік* (Erithrea centaurium). Сустракаюцца ў нас яшчэ расьліны рэдкія, якія зьяўляюцца спадакам атрыманым нашай флёрай (расьліннасьцю) ад папярэдніх эпох, калі клімат быў цяплейшы, а расьліннасьць значна буйнейшая. Захаваліся ў нас гэтыя расьліны толькі там, дзе мяйсцовыя варункі спрыяюць яшчэ іх росту.

Да гэтых расьлінных помнікаў далёкіх папярэдніх эпох, адносяцца лекарскія расьліны (Adonis vernalis), Арніка (Arnica Montana) і некаторыя іншыя. Да гэтакіх мы павінны адносіцца з асаблівай асьцярожнасьцю, і каб задаволіць запатрабаваньне рынку, а запатрабаваньне гэтае досыць вялікае, бо аблічаецца ў тысячах кіляграмаў, павінны зьвярнуць ўвагу на гадоўлю іх.

Сучаснае зелярства, калі ў мэдыцыне кінуты кліч павароту да прыроды і калі дзеля гэтага патрабуюцца вялікія колькасьці розных лекарскіх расьлін, павінна ў імя абароны прыроды імкнуцца да замены збору з дзікага стану, гадоўляю лекарскіх расьлін.

Гэтым толькі можна будзе задаволіць запатрабаваньне апошняга рынку і захаваць прыгожую і багатую дзікую флёру.

Дык будзем жа асьцярожна абходзіцца з даным нам Божым дарам і пры зьбіраньні зёлак будзем помніць заўсёды аб абароне прыроды.

**М. Эміч.**

---

М. МАНЦЭВІЧ.

## Гадоўля валерыяну

Валерыян (Valeriana officinalis) зьяўляецца расьлінай, якую сьмела можна гадаваць у найвялікшых колькасьцях, дзякуючы запатрабаваньню на яе карэньне, каторае мае вялікае застасаваньне ў мэдыцыне і з якога выраблюцца знаныя ўсім валерыянавыя каплі. Ужо самая назва расьліны, якая паходзіць ад лацінскага „Valera“ —быц здаровым, гаворыць аб тым, якое значэньне мае валерыян для здароўя чалавека.

Валерыян расьце ў нас у дзікім стане ў мокрых мяйсцох на сенажацьцях, у равох, на берагах рэчак, у лясох і зарасьлях. Расьліна шматгадовая, але для лекарскіх мэтаў мае значэньне толькі 2-х гадовая. Сьцябло валерыяну дарастае да 1 — 1⁸⁄₁₀ мэтра вышыні, роўнае, пустое ў сярэдзіне, у нізе пакрытае валаскамі, а ў гары зусім гладкое. Лісьцё даўгое, пярыста-сечанае, гладкое, зялёнае, сідзячае ў нізе сьцябла на трончыках, а ў гары — бяз трончыкаў. Цьвіце ад чэрвеня да жніўня. Цьвет двуполы дробны, белага або ружовага колеру ў ліліёвы водцень, зложаны ў пышныя парасонікі, пахне мёдам. Насеньне знаходзіцца ў овачах, якія, як толькі пачынаюць дасьпяваць лёкка разносяцца ветрам. Корань—разрослы, падобны да крапіла, у дзікім стане разьмеру не вялікага, але чым ляпей будзе выраблена зямля, тым лепшы і багацейшы корань дае гадаваная расьліна.

Развадзіць валерыян можна парасткамі, якія дае корань больш як 2-гадовых расьлін, але гэтакія расьліны даюць тавар горшага гатунку. Найлепш развадзіць валерыян з на-

сеньня. Сабранае з восені насеньне, трэба зараз-жа высеяць, бо пераханавае хутка траціць сілу прарастаньня. Дзеля апошняга, купляючы насеньне, трэба жадаць гарантыі здольнасьці яго прарастаньня, але найляпей будзе карыстацца насеньнем уласнай прадукцыі.

Дзеля збору насеньня трэба пакінутыя на насеньне расьліны зрэзаць з усім сьцяблом, як толькі яны перацьвітуць, і злажыць іх на падстрэшшы, падаслаўшы грубую паперу, ці густое палатно, там дзе знаходзіцца насеньне. Пакуль сьцябло высахне, насеньне карыстаючыся ягонымі сокамі дасьпее. Тады трэба яго абмалаціць, ачысьціць на сітах і сеяць.

Валерыян не баіцца ані марозаў, ані бязсьнежнай зімы, дзеля чаго гадоўля яго ў нас зьяўляецца зусім магчымай.

Валерыян удаецца на кожнай зямлі, апрача зямлі кіслай і цяжкой гліны. Палажэньне плянтацыі павінна быць сонечнае, а зямля прапускаючая ваду, бо валерыян як і ўсе іншыя алейкадайныя расьліны дае лепшы пах і больш эфірнага алейку, тады, калі расьце ў больш сухім мейсцы і на сонцы. Дзеля гэтага валерыян зьбіраны з дзікага стану, які расьце пераважна ў вільготным мейсцы і ў цяні, лічыцца горшага гатунку, чым валерыян гадаваны.

Валерыян, як і усе іншыя лекарскія расьліны, вымагае зямлі добра выробленай, мяккой, ачышчанай ад пырніку і іншага пустазельля. Дзеля гэтага найлепей удаецца ён пасьля карняплодаў, на другі год па ўгноеньні.

Поле вызначанае пад валерыян, які будзем садзіць вясной, трэба з восені глыбака зааpaць і пакінуць небаранаванае на зіму, каб добра выветрылася і прамерзла, а вясной забаранаваць 2 — 3 разы, завальцаваць і тады ўжо садзіць на ім расаду валерыяну. Калі хочам садзіць валерыян з восені, дык на вызначаным полі з вясны садзім бульбу сьпешку, пасьля збору яе зямлю трэба заараць, забаранаваць і г. д.

Каб атрымаць расаду валерыяну з насеньня, апошняе высяваецца ў расаднік у восені зараз пасьля збору яго. Зямля ў расадніку павінна быць добра перакапаная, ачышчаная ад пырніку і выраўненая граблямі. Перад сяўбой насеньне трэба зьмяшаць з сухім пяском (на 1 частку насеньня даецца 10 частак пяску), а зямлю паліць вадой. Засеянае мейсца ня трэба баранаваць, але толькі закрыць мохам, або лісьцём, і штодзень добра паліваць. На 5—6 дзень, калі насеньнд пачне прарастаць, накрыцьце здымаецца, а зямля паліваецца вадой, каб саўсёды была вілготнай. Расаду можна высаджываць у поле, калі яна дасьць ужо 5 — 6 лістоў, але можна трымаць яе ў расадніку цэлы год, і гэтак будзе ляпей, бо высаджаная ў першым годзе яна толькі займе мейсца, а карысьці нядасьць ніякай. Вясной высаджываць расады ня трэба вельмі рана. Вынімаць расаду з расадніка трэба або тонкай драўлянай лапаткай з цьвёрдага дзерава шырыні 6—7 цэнтымэтраў, або амэрыканскімі віламі. Расаднік перад распачацьцем працы трэба паліць вадой, а расаду падняць лапаткай ці віламі з зямлёю, тады паасобныя флянсы лёкка выбіраюцца з зямлі. Адабраўшы флянсы, якія можна высадзіць у поле, астаўшыяся, дробныя, слаба разьвітыя трэба пакінуць у расадніку, абцісьнуўшы іх і добра паліўшы вадой, дзе яны хутка дарастуць да разьмераў, калі можна будзе іх высадзіць. Высажываць расаду трэба радамі ў адлегласьці 40×40 цэнтымэтраў. Рады трэба загадзя пазначыць пры помачы туга нацянутага шпагату, і парабіць для расады ямкі—для гадавой невялічкай лапатай, а для малой— калочкам, як для капусты.

Карэньчыкі расады трэба добра расправіць. Расаду, высаджаную ў сухую пагоду, трэба з пару разоў паліць вадой. На адзін гэктар патрабуецца ад 60 да 100 тысячаў расады.

(Гатовую расаду можна атрымаць па цане каля 15 зл. за 1000 шт.).

(Далей будзе)

---

# Календар збору зёлак.

## Красавік—Травень.

Пакуль расьліна яшчэ не пачне расьці трэба зьбіраць пупышкі і карэньне расьлін пададзеных у папярэднім нумары „Бел. Борці“.

Кара зьбіраецца пакуль яе лёкка можна зьдзіраць.

У канцы красавіка і ў траўні распачынаецца ўжо збор зельля, лісьця кветак.

### Зельле.

1) **Чысьцяк**—Ficaria ranunculoides vel Ranunculus ficaria. Запатрабаваньне сярэдняе.

2) **Стрэлкі**—Capsella bursa pastoris. Запатрабаваньне сярэдняе, цана 40—50 гр. за кгр.

3) **Хвошч палявы** Aquisetum arvensae. Запатрабаваньне вялікае, тавар экспортны, цана каля 20 грошы за кілярам.

4) **Братачкі**—Viola tricolor. Запатрабаваньне вялікае, тавар экспортны цана 40—50 гр. за кгр.

5) **Цанцылея** (чыстацел) Chelidonium majus. Цана 40—50 гр.

6) **Сончык** — Anemone Pulsatilla.

7) **Расходнік гародні** — Glechoma hederacea.

8) **Зайчая рута** — Fumaria officinallis.

9) **Срэбнік**—Potentilla anserina.

### Кветкі.

1) **Шанта** (белая крапіва)—Lamium album. Запатрабаваньне сярэдняе, але часта здараецца надпрадукцыя. Зьбіраць калі ёсьць запэўнены збыт, цана 4—5 зл. за кгр.

2) **Канвалея**—Convallaria Majalis. (Атрутнае), цана 4—6 зл. за кгр.

3) **Бузіна**—Sambucus Nigra. Запатрабаваньне значнае. Збыт вельмі залежны ад выгляду тавару, цана 1 зл. 30 гр.—1 зл. 40 гр. за кгр.

4) **Падбел**—Tussilago farfara.

### Лісьцё.

1) **Бяроза** — Betula alba. Зьбіраць толькі маладое, яшчэ ліпкое. Запатрабаваньне малое, цана каля 10 гр. за кілярам.

2) **Падбел** — Tussilago farfara. Запатрабаваньне вялікае, тавар экспортны, цана каля 15 гр. за кгр.

3) **Чарніцы** — Vaccinium Myrtillus. Запатрабаваньне значнае, цана 50 — 60 гр. за кгр.

4) **Палын** — Artemisia Absinthium. Запатраб. вялікае, цана каля 20 гр. эа кілярам.

5) **Дзяванна** — Verbascum thapsiforme і V. phlamoides. Запатрабаваньне вельмі малое. Зьбіраць на заказ.

6) **Мачанічнік** — Arctosta phylos Uva Ursi. Запатрабаваньне вялікае, але вымагаецца, каб лісьцё было зусім зялёнае, цана каля 20 гр.

7) **Чорная парэчка** — Ribes Nigrum, цана каля 30 гр. кгр.

8) **Пралеска**— Hepatica trilaoba, цана каля 60 гр. за кгр.

9) **Маліна**—Rubus Idaclus.

10) **Чорная маліна**—Rubus fruticosus.

11) **Крапіва** — Urtica dioica, цана каля 20 гр.

12) **Бабок** — Menyanthes Trifoliata. Запатрабаваньне вялікае, тавар экспортны, цана 15—20 гр.

13) **Воўчая ягада**—Atropa Belladonna. (Атрутнае), запатрабаваньне сярэдняе, але цалком не пакрываецца, цана 1 зл. 50 гр. за кгр.

### Грыбы.

**Смаршчкі** — Morchella esculenta і M. elata. Тавар экспортны.

(Цэны пададзены арыентацыйныя, без забавязаньня).



# Паштовая скрынка.

**Гр-ну А. Пятроўскаму.** Пробны нумар выслалі. Варункі падпіскі знойдзеце на 1 сатронцы. Чакаем падпіскі.

**Гр-ну П. Немецу.** „Бел. Борць" высылаем. Чакаем падпіскі. Курсы па збору зёлак Т-ва „Пчала" высылае толькі па атрыманьні грошаў.

**І. Балашку-Бігуну.** Выслана Вам 20 шт Hydrastis canadensis і 50 шт. Glycerrhisa glabra. Падрабязны разрахунак вышлем поштай. Насеньне Faenum graecum дастаць ня ўдалося.

**Гр. Ул. Дзежку.** Падрабязны адказ падамо лістоўна. Усе інфармацыі знойдзеце ў гэтым нумары.

**Гр. Зімніцкаму.** Высылаем. 1 зл. ад Вас атрымана.

**Гр. Бр. Данілоўскаму.** Ад Вас нічога не атрымалі. Падайце дакладны адрас.

---

З папярэднім нумарам „Беларускай Борці" рэдакцыя выслала паважаным падпішчыкам належныя прэміі.

Прыслаўшым падпіску за паўгода высылалі па 1-эй порцыі медадаю, **Асацец грэцкі**. Прыслаўшым подпіску гадавую — порцыю Асацьцу і порцыю **Фацэліі**.

**Асацец грэцкі** (Echium creticum) расьліна аднагадовая. Вельмі падобная да нашага Асацьца дзікага (гэты апошні двухгадовы), але цьвіце шмат даўжэй, аж да маразоў і зацьвітае ў 3—4 тыдні пасьля пасеву. Сеяць рана вясной рэдка, чым радзей, тым лепш разрастаецца. Любіць грунт чысты, бяз пустазельля. Рассяваецца далей сам. Мядуе вельмі добра пры ўсякай пагодзе.

**Фацэлія** (Phacelia tanacetifolia) расьліна аднагадовая. Цьвіце ў працягу 5 тыдняў, мядуе вельмі добра. Сеяць рана вясной, вельмі рэдка, ў добра абробляную і чыстую ад пустазельля зямлю. Хочучы прадоўжыць час красаваньня фацэліі, трэба высяваць яе часткамі ў 2-тыднёвых одступах.

---

Гэты нумар „Бел. Борці" высылаем на ўсе ласкава прысланыя нам адрасы. Наступны будзе высланы толькі тым, хто прышле падпіску.

*Рэдакцыя і Адміністрацыя.*



Выдавец-Рэдактар Л. ВОЙЦІКАВА.